*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
Якуб Колас

**№ 33 (1596)**
Чацвер , 20 лютага 2003 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень

Кошт свабодны.

# Народная Воля

### *Надвор'е*

Сёння ўдзень па краіне захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, месцамі магчымы снег. Вецер паўночны, 2—5 м/с. Тэмпература паветра ў Гродне — 0...+1, Гомелі — 0...-2, Брэсце, Віцебску, Магілёве — 0...+1, Мінску — +1...-2. Уначы па краіне — каля 0.



# ОТКРЫТОЕ ПИСЬМО

*Президенту Республики Беларусь А.ЛУКАШЕНКО*

**Копии:**
*Председателю Конституционного суда Республики Беларусь Г.ВАСИЛЕВИЧУ*
*Генеральному прокурору Республики Беларусь В.ШЕЙМАНУ*
*Главам дипломатических представительств*
*Руководителям международных организаций*

Александр Григорьевич!

В начале прошлого года ушел из жизни депутат Палаты представителей по Масюковщинскому избирательному округу по выборам в Палату представителей Национального собрания г.Минска. В соответствии со ст. 88 Избирательного кодекса Республики Беларусь в случае отзыва депутата Палаты представителей, досрочного прекращения депутатских полномочий по другим причинам в соответствующем избирательном округе в четырехмесячный срок с момента выбытия депутата проводятся новые выборы.

Однако, в нарушение действующего законодательства, новые выборы в нашем округе до настоящего времени так и не назначены.

Аргументы в пользу переноса выборов в избирательном округе на 2004 год, предлагаемые руководителями Центральной избирательной комиссии, являются юридически никчемными и противоречат законодательству.

В итоге около 60 тысяч избирателей противозаконно лишены одного из главных демократических прав, гарантированного ст. 38 Конституции (Основного Закона Республики Беларусь), — избирать и быть избранным в государственные органы на основе всеобщего, равного, прямого или косвенного права при тайном голосовании.

Значительное количество граждан страны вот уже в течение почти года не могут реализовать свое право участвовать в решении государственных дел как непосредственно, так и через свободно избранных представителей, гарантированное ст. 37 Конституции Республики Беларусь. В случае, если выборы не будут назначены, такое положение сохранится еще почти два года.

Многократно Вы заявляли о том, что являетесь гарантом Конституции. Информируя гаранта Конституции о грубейшем нарушении Основного Закона Республики Беларусь, требую:

— выполнить положения ст.ст. 37 и 38 Конституции и ст.88 Избирательного кодекса Республики Беларусь и немедленно назначить выборы в Палату представителей по Масюковщинскому избирательному округу г. Минска взамен выбывшего депутата;

— Конституционному суду дать правовую оценку конституционности действий соответствующих ветвей и конкретных представителей власти;

— Прокуратуре Республики Беларусь провести проверку факта нарушения законодательства и принять в отношении лиц, прямо или косвенно виновных в нарушении конституционных прав граждан, соответствующие меры прокурорского реагирования вплоть до возбуждения уголовных дел, полагая, что их действия подпадают под соответствующие статьи Уголовного кодекса Республики Беларусь.

Информирую Вас также о том, что вместе с группой сограждан в самое ближайшее время намерен начать сбор подписей избирателей округа с поддержкой требования о назначении выборов в Палату представителей по нашему избирательному округу.

Думаю, что наши законные требования поддержат все граждане страны, политические партии и иные общественные объединения, международные организации, руководители и все люди доброй воли стран мирового сообщества.

**Владимир НИСТЮК,**
**заместитель председателя Белорусской социал-демократической партии (Народная Грамада),**
**депутат Верховного Совета Республики Беларусь 13-го созыва.**

# Мікола Статкевіч хоча высветліць...

Старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) звярнуўся з афіцыйным лістом да старшыні Цэнтрвыбаркама Лідзіі Ярмошынай. Адзін з лідэраў беларускай апазіцыі звяртае ўвагу на тое, што ў шэрагу артыкулаў Выбарчага кодэксу не прапісана дакладна працэдура падліку галасоў і падвядзення вынікаў галасавання. А гэта дае магчымасць для рознага тлумачэння адных і тых жа артыкулаў Выбарчага кодэксу рознымі выбарчымі камісіямі. Таму Мікола Статкевіч просіць Лідзію Ярмошыну высветліць погляд Цэнтрвыбаркама на некаторыя артыкулы.

Сваю ініцыятыву лідэр Народнай Грамады тлумачыць наступным чынам: "Адсутнасць дакладных інструкцый па сутнасці стварае магчымасці для фальсіфікацыі, якая не ведае межаў. Гэта і недапушчэнне назіральнікаў да працэсу сапраўднага назірання, калі нават асобны член выбарчай камісіі не ведае колькасць галасоў, якую налічыў ягоны сусед. Такіх магчымасцей, як кажуць, процьма. Мы ўпершыню сутыкнуліся з гэтым падчас паўторных выбараў у Палату прадстаўнікоў. Тады ўлады фактычна паказалі свае напрацоўкі, якія яны падрыхтавалі перад прэзідэнцкімі выбарамі. Раней усё ж назіральнікам хоць нешта, ды паказвалі. А падчас паўторных выбараў і прэзідэнцкіх іх адсоўвалі ад стала на значную адлегласць, калі назіральнік сядзеў за пяць метраў, яму забаранялася ўставаць і цікавіцца падлікамі. І таму былі ўсялякія магчымасці для фальсіфікацыі вынікаў галасавання".

Цікавы момант: калі я размаўляў з Міколам Статкевічам, побач з ім знаходзіўся член Народнай Грамады Сяргей Раманько. Ён падчас прэзідэнцкіх выбараў быў назіральнікам. І калі тады іншыя яго калегі маўкліва пагаджаліся з тым, што ім фактычна не дазвалялі адсочваць рэальныя вынікі выбараў, то Сяргей Раманько настаяў на тым, каб яму далі магчымасць стаць сапраўдным сведкам падліку бюлетэняў. І што ж? На гэтым выбарчым участку ў Мінску Уладзімір Ганчарык набраў больш галасоў, чым Аляксандр Лукашэнка.

Мікола Статкевіч заклікае іншых лідэраў апазіцыі падтрымаць яго захады. Ён гаворыць, што некаторыя яго калегі, якія байкатавалі выбары, проста не адчулі на сабе ўсіх магчымасцей для фальсіфікацыі. Таму лідэр Народнай Грамады хоча, па-першае, прыцягнуць увагу да механізму магчымых фальсіфікацый на мясцовых выбарах, а па-другое, дамагчыся афіцыйнага адказу Цэнтрвыбаркама.

Я хацеў даведацца, што думае на гэты конт кіраўнік Цэнтральнай выбарчай камісіі Лідзія Ярмошына. Аднак яна зараз знаходзіцца ў Арменіі, дзе праходзяць прэзідэнцкія выбары. Сакратар камісіі Мікалай Лазавік лічыць што "ніхто не будзе выганяць назіральнікаў, калі яны сябе правільна паводзяць. Нельга ж дапускаць, каб яны віселі над спінамі членаў камісіі альбо перасоўвалі мэблю ў зале..."

Мікалай Лазавік сказаў, што высвятленне норм заканадаўства ў мэтах аднабаковага іх ужывання знаходзіцца ў кампетэнцыі Цэнтрвыбаркама. Ён думае, што зварот Міколы Статкевіча можна разглядаць як ліст грамадзяніна Беларусі да камісіі. "А мы ніводны зварот не пакідаем па-за ўвагай", — адзначыў сакратар Цэнтрвыбаркама.

**Уладзімір КОТ.**

***P.S.** Як стала вядома, да ліста М.Статкевіча далучыліся лідэры некаторых іншых палітычных партый.*

# Станіслаў Шушкевіч атрымаў мантыю ад вядомага куцюр'е

"Для мяне важна тое, што мне прысвоілі ганаровае званне прафесара філасофіі Сеульскага універсітэта", — кажа прафесар фізікі Станіслаў Шушкевіч.

Экс-старшыня Вярхоўнага Савета днямі наведаў Паўднёвую Карэю і Японію. Ён быў запрошаны на канферэнцыю "Лідэрства і кіраванне", у якой таксама прымалі ўдзел былыя кіраўнікі дзяржаў і былыя кіраўнікі ўрадаў. У Сеуле імя Станіслава Шушкевіча добра вядома. Два гады таму прафесар з Беларусі чытаў у тамтэйшым універсітэце лекцыі па філасофіі. Акрамя таго, Станіслаў Шушкевіч з'яўляецца сустаршынёй сусветнай федэрацыі "За мір ва ўсім свеце" са штаб-кватэрай у Сеуле і Вашынгтоне.

— Ганаровым званнем былі ўшанаваны толькі два дактары навук. Я і былы прэзідэнт Інданезіі Абдуррахман Вагід, — кажа Станіслаў Станіслававіч. — Цырымонія праходзіла ў ганаровай зале лепшага Сеульскага гатэля "Лёттэ". Менавіта там спыніўся Абдуррахман Вагід. Былы прэзідэнт Інданезіі амаль страціў зрок, і таму вырашылі цырымонію ўзнагароджання правесці менавіта ў гэтым гатэлі. Дыпломы нам ўручала рэктар Сеульскага універсітэта Кынг Чун Лі, адзіная жанчына-рэктар у Паўднёвай Карэі.

У дыпломе запісана, за што я атрымаў ганаровае званне: "За ўклад у навуку і дэмакратыю".

**Марыя ЭЙСМАНТ.**




**SOS!**

# Спыніце паборы

У студзені за камунальныя паслугі ў сваёй двухпакаёвай кватэры я заплаціў 57 тысяч рублёў. Паслухаць чыноўнікаў, дык я яшчэ і не даплачваю. Маўляў, жыхары пакуль плацяць толькі палову, а астатнія выдаткі кампенсуе дзяржава.

Ці так гэта? Я ўзяў дадзеныя з бюджэту, прыкінуў расходы насельніцтва на ваду і цяпло, і аказалася, што нас абдзіраюць і падманваюць. Давайце прыкінем.

У маёй кватэры жыве 3 чалавекі. Дзелім 57 тысяч на 3 і атрымліваем суму аплаты за камунальна-жыллёвыя паслугі ў разліку на аднаго чалавека. Яна складае 19 тысяч рублёў. У гарадах краіны жыве 6 мільёнаў чалавек. Простыя разлікі паказваюць, што гарадское насельніцтва плаціць камунальшчыкам у месяц 114 мільярдаў рублёў (19.000х6.000.000), 1 трыльён 368 мільярдаў у год (114 мільярдаў х 12).

Гэта ж гіганцкая сума!!! Для параўнання зазначу, што на сілавыя структуры (армію, міліцыю, суды) выдзелена крыху больш за 800 мільярдаў. Уся расходная частка бюджэту на гэты год складае дзесьці за 6 трыльёнаў рублёў.

Вядома, мае падлікі вельмі прыблізныя. Але і яны паказваюць, што плата за камунальныя паслугі — адна з асноўных крыніц папаўнення дзяржаўнай казны. Дык ці не час спыніць паборы з беднага насельніцтва?!

Гэтыя падлікі ўзяты з пісьма мінчаніна Яўгена Праскаловіча. А вось што піша пенсіянер з Салігорска Алег Палавінка. Па яго словах, склалася сітуацыя, у якой вельмі цяжка выжыць пажылому чалавеку. Пенсія малая, а плата за камунальныя плацяжы вялікая. Разлічышся з камунальшчыкамі, і амаль нічога не застаецца. А прафсаюз маўчыць, хоць ён павінен абараняць інтарэсы працоўнага чалавека. Колькі ж можна выцягваць апошнія сокі з пажылых людзей, і колькі яшчэ будуць маўчаць прафсаюзы на чале з Козікам?! Узровень жыцця пераконвае, што краінай кіруюць не тыя людзі.

Ці патрэбен яшчэ нейкі каментарый да гэтых выказванняў?

**Яўген ТАЎГЕНЬ.**

**ПУЛЬС**

## Зрабілі засаду і...

14 лютага егер Негарэльскага вучэбна-доследнага лясгаса Уладзімір Калубака на адным з месцаў сілкавання дзікіх жывёл знайшоў петлі, пастаўленыя на дзікоў, а непадалёку — вытаптанае ў снезе лежбішча для стральбы па іх. У той жа дзень егерская служба лясгаса зрабіла засаду каля пратаптанай у снезе сцяжынкі браканьера. У выніку быў затрыманы жыхар Мінска Васіль Бацылеў, раней асуджаны за незаконнае захоўванне наразной зброі і боепрыпасаў, а зараз — падазроны ў незаконным паляўніцтве на ласёў. Пры ім знаходзіўся зараджаны паляўнічы карабін "Лось-7" з аптычным прыцэлам і заплечнік з дапаможнымі асвятляльнымі прыборамі для палявання. Браканьер быў дастаўлены ў Дзяржынскі РАУС.

Пры правядзенні вобыску на лецішчы ў затрыманага супрацоўнікі Дзяржынскага РАУС канфіскавалі гладкаствольнае ружжо і боепрыпасы, а таксама петлі з тонкага тросу і прыстасаванні да іх, прызначаныя для палявання на жывёл. Акрамя гэтага, на лецішчы былі знойдзены акрываўленыя поліэтыленавыя пакеты і тры пары рагоў аленяў з чарапамі.

**Марат ГАРАВЫ, БелаПАН.**

## Яшчэ два хабарнікі папаліся

Супрацоўнікі ўпраўлення па Брэсцкай вобласці Камітэта па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй затрымалі інжынера па рэкламе і забеспячэнні Брэсцкага камунальнага вытворчага унітарнага прадпрыемства "Металіст" у час атрымання ім 700 долараў ЗША ад прадстаўніка адной мінскай фірмы. Хабар меркавалася аддаць за заключэнне дагавора на пастаўку рэжучага інструмента на выгадных для сталічнага прадпрыемства ўмовах. Інжынер "Металіста" затрыманы.

А некалькімі гадзінамі пазней, у той жа дзень, у следчы ізалятар трапіў старшыня Брэсцкага абласнога таварыства інвалідаў, які таксама падазраецца ў атрыманні хабару ў памеры 100 долараў. Грошы ён узяў ад індывідуальнага прадпрымальніка за спрыяльнае вырашэнне пытання аб прадастаўленні памяшкання ў арэнду.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

## У грамадзян — 1.144 адзінкі баявой зброі

Савет міністраў Беларусі ўхваліў указ "Аб некаторых пытаннях абароту зброі і боепрыпасаў да яе на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь".

Гэтым дакументам зацвярджаецца Парадак канфіскацыі на кампенсацыйнай аснове баявой і службовай зброі і боепрыпасаў да яе, за выключэннем наградного, што знаходзіцца ва ўласнасці грамадзян і набытае імі на законных падставах.

Цяпер ва ўласнасці грамадзян знаходзіцца 1.144 адзінкі баявой і службовай зброі, набытай на законных падставах. Паводле папярэдніх разлікаў, кампенсацыйная канфіскацыя яе ў грамадзян абыдзецца казне ў 156 тысяч долараў.

На руках грамадзян маюцца пісталеты ПМ, АПС, ТТ, ПСМ, рэвальверы "Наган", вінтоўкі СВД, СВТ, Мосіна. Больш за ўсё ва ўласнасці грамадзян пісталетаў Макарава — 629 адзінак. Адзін такі пісталет ацэнены МУС у 170 долараў. Рэвальвераў "Наган" — 179 адзінак (41 долар), пісталетаў АПС — 108 адзінак (210 долараў), пісталетаў ТТ — 94 адзінкі (93 долары), пісталетаў ПСМ — 71 адзінка (135 долараў).

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ, БелаПАН.**

**ИЗ ПЕРВЫХ УСТ**

*Эберхард ХАЙКЕН,*
*посол, глава офиса ОБСЕ в Беларуси:*

# «Мне кажется, у Минска есть свой шарм...»

*Политический обозреватель "Народной воли" Владимир Глод стал первым журналистом, кому согласился дать эксклюзивное интервью глава офиса ОБСЕ в Минске посол Эберхард Хайкен. Впрочем, справедливости ради уточним, что наш обозреватель был первым из белорусских журналистов. Как выяснилось за чашечкой кофе, в офисе господина Хайкена уже побывали представители прессы из Швеции и Германии. И хотя они не предупреждали о своем приезде, глава офиса не мог отказать им в беседе, учитывая то расстояние, которое они преодолели...*

**— Господин посол, когда стало известно о Вашем назначении, один из моих немецких знакомых сказал: "Владимир, поинтересуйся у посла, не родом ли он из Бонна? Там уже многие столетия работают известные адвокаты по фамилии Хайкен".**

— Нет. Я родился не в Бонне, а в деревне в северной части Германии. В конце концов я переехал в Бонн, но до этого провел много лет в Ганновере и Берлине. И с теми Хайкенами, которых вы вспомнили, родственными узами не связан. Хотя сам я по профессии юрист, а мой родной брат и два моих племянника по фамилии Хайкен являются адвокатами.

**— Коль Вы, господин Хайкен, упомянули о своем юридическом образовании, то расскажите, пожалуйста, как Вы строили мостик между профессиями юриста и политика?**

— Позвольте Вас поправить. Я все же не называю себя политиком. Я делал не политическую, а дипломатическую карьеру. Началось с того, что мне довелось изучать право в Берлине и Геттингене. Мне повезло, я получил стипендию для продолжения образования в Женеве, где и находился в 1961—1962 годах. Не надо объяснять, что Женева — город, где пересекаются многие международные маршруты, где обсуждаются и решаются многие международные проблемы. Именно там и появилась у меня привязанность к международным отношениям. Именно там возникло желание стать сотрудником дипломатических миссий. Возможно, что в этом выразился и тот интерес, который я с юных лет питал к истории политики. Я изучал политику развивающихся стран, после чего и стал дипломатом. Меня пригласили в Бонн, который в то время был столицей ФРГ, и там я стал сотрудником Министерства иностранных дел.



**— И как же изучение развивающихся стран отразилось на Вашей карьере?**

— Три года (1969—1972) проработал в Индии. Потом пришлось полностью изменить свою направленность, поскольку меня направили работать в посольство ФРГ в Советском Союзе. Там я был с 1972 по 1976 год.

**— Помните Леонида Ильича Брежнева?**

— Конечно. Но мне те годы больше запомнились другим. Это было время разрядки. Особенно в отношениях между ФРГ и СССР. Я приехал в Москву буквально через несколько дней, после того как было ратифицировано Соглашение между ФРГ и СССР. И этот документ открывал большие перспективы для сотрудничества.

**— А после Москвы?**

— Работал в Вашингтоне, Бонне, затем вторично (1989—1994) в Москве. На моих глазах в Советском Союзе делалась история. И я был всему этому свидетелем. Затем полтора года проработал послом ФРГ в Швейцарии. А с 1996 по 2000 год — послом ФРГ в Украине.

**— Мне как-то попалась на глаза украинская газета, в которой утверждается, что Вам особенно по душе пришлась Одесса. Мол, этот город Вам нравится больше, чем Киев. Это на самом деле так?**

— Нет. Мне всегда нравилась очень древняя и красивая столица Украины. Другое дело, что в этой стране много красивых больших и малых городов. В том числе и Одесса.

**— Тогда насколько верна, господин посол, информация о том, что Вы участвовали в возведении в Одессе приюта для бездомных собак?**

— Я помогал в этом благородном деле. И если быть до конца точным, то это приют не только для бездомных собак, но и для бездомных кошек. Я это делал по поручению Немецкой ассоциации защиты животных. Это довольно-таки влиятельная в Германии организация. На протяжении трех лет я помогал создавать нормальные условия для четвероногих друзей человека. Я надеюсь, что и в будущем смогу делать небольшие взносы на эти цели.

**— Наверное, у Вас тоже есть собаки или кошки?**

— Дома, в Германии, остались две собаки. (Неожиданно господин посол вынул из бумажника цветную фотографию. Это мой любимец Вилли, пояснил он. Я приобрел его еще щенком в Москве. К сожалению, полтора года, как Вилли нет в живых.) Почему я занимаюсь этим? Убежден, что животные сегодня нуждаются в защите.

**— Судя по тому, что Ваши четвероногие друзья остались в Бонне, Вы видимо приехали в Минск без семьи?**

— Да. Жена осталась в Германии. Это очень любимый и близкий мне человек. 29 июня мы отпразднуем 40-летие нашего супружества. Пока она живет в Бонне, где у нас хороший дом. Почему она не со мной? После 35 лет путешествия по миру хотелось бы немножко осесть на одном месте. Пока я планирую время от времени посещать Бонн. А там, надеюсь, и супруга приедет в Беларусь. По крайней мере она мне говорит, что с нетерпением ожидает потепления, когда сможет приехать в столицу Беларуси. Сын нас не связывает. Он уже взрослый. У него собственная семья, есть дети — мальчик и две девочки.

**— Господин Хайкен, а сложились ли у Вас какие-то первые впечатления о Минске?**

— Прежде всего, именно у Вас я стал свидетелем настоящей зимы. В Беларуси я был, наверное, раз 8—10. Последний раз в 1991 году. Что касается впечатлений и эмоций, то самые сильные впечатления остались у меня от первого посещения. Я знал, как сильно был разбит Минск в годы второй мировой войны. И потому тогда меня очень впечатляло, как быстро смог восстановиться и разрастись такой город. Мне кажется, у Минска есть свой шарм. Пока же я с нетерпением жду весны, лета. Мне хочется увидеть город в зелени, посмотреть его пригороды.

**— Понятно, что у Вас здесь будет уйма работы. Но отдыхать ведь тоже нужно. Как Вы предпочитаете проводить свободное время?**

— Больше всего мне нравится чтение. С удовольствием читаю русских писателей. Интересуюсь также театром. В Вене, где я провел почти весь прошлый год, старался раз в неделю побывать в театре. Уверен, что и в Минске я буду присутствовать на спектаклях. Люблю побывать в художественных музеях, постоять у картины. Еще мне нравится садоводство, но пока не знаю, смогу ли заниматься этим делом здесь. Еще хотел бы кататься на лыжах, как я это делал, когда работал в Москве. Но пока мои лыжи еще до Минска не доехали.

**— Господин посол, до начала беседы мы договорились о том, что не будем касаться политической тематики. И все же, как вы относитесь к тому, что вольно или невольно Вас будут сравнивать с Вашим предшественником, господином Виком?**

— Я знаю, что это неизбежно. Но какого-то неудобства по этому поводу я не чувствую. Конечно, и я, и господин Вик — живые люди, и, естественно, мы отличаемся друг от друга. Те, кто будет контактировать со мной, понятно, придут к каким-то своим умозаключениям. Делать подобные выводы мне было бы субъективно. Но существует по крайней мере один элемент, в котором мы схожи с моим предшественником. Это — надежность и искренность, с которыми делалась работа и с которыми она будет делаться и впредь.

**Владимир ГЛОД.**
**Фото IREX/ProMedia.**

**РЭБУС**

# За што звольнілі адказнага чыноўніка?

**Вестка аб адхіленні ад пасады дырэктара Фонда дзяржаўнай маёмасці Міністэрства эканомікі Генадзя Падгорнага выклікала нямала чутак. Афіцыйна ён вызвалены "за грубае парушэнне працоўных абавязкаў". Але якое гэта парушэнне? Чыноўнікі ўсяляк ухіляюцца ад прамога адказу.**

Ідуць чуткі аб тым, што прычынай звальнення стаў продаж па вельмі таннай цане беларускага пакета акцый "Слаўнафты". Такую версію, у прыватнасці, выказвае расійская газета "Коммерсантъ-Daily".

Думаецца, чуткі маюць пад сабой пэўную глебу. Спадар Падгорны ўзначальваў камісію па правядзенні перамоў з пакупніком, распрацоўваў стратэгію і тактыку продажу тых акцый.

Як вядома, урад меркаваў выручыць ад здзелкі прыкладна 250 мільёнаў долараў. Прадалі ж пакет акцый за 207 мільёнаў долараў. Наша газета выказвала думку аб тым, што выручка аказалася невялікай. Аб гэтым ішла размова, у прыватнасці, у карэспандэнцыі "За бясцэнак?", апублікаванай 14 снежня мінулага года.

І сапраўды. Давайце прыкінем. Расія летась прадала свой пакет акцый "Слаўнафты" (прыкладна 75 працэнтаў) за 1,86 мільярда долараў. Простыя разлікі паказваюць, што за кожны працэнт акцый нашы суседзі атрымалі 24,8 мільёна долараў. Па такой расцэнцы 10,8 працэнта нашых акцый каштуюць 267,8 мільёна долараў.

Трэба адзначыць, што ў Расіі тая іх здзелка ацэнена як нездавальняючая. Такую ацэнку вынесла ёй адпаведная камісія Савета Федэрацыі. Спікер Дзяржаўнай Думы Генадзь Селязнёў назваў яе "забаўным спектаклем палітыка-эканамічнай накіраванасці". А, паводле ацэнкі Расійскай "Счетной комиссии", мінімальная цана пакета іх акцый павінна быць не ніжэй за 2,5 мільярда долараў. Калі зыходзіць з такой расцэнкі, дык за беларускі пакет акцый трэба было прасіць 350 мільёнаў долараў.

Чаму ж беларускія чыноўнікі прадалі яго за 207 мільёнаў долараў? Той-сёй мяркуе, што некаму ўдалося добра пагрэць рукі на гэтай здзелцы. У той жа час некаторыя сцвярджаюць, што чыноўнік нават такога рангу, як дырэктар Фонду дзяржаўнай маёмасці, у нашых умовах не можа дазволіць сабе ніякай вольнасці, бо падобныя працэсы знаходзяцца пад кантролем самога Аляксандра Лукашэнкі.

Падобныя разважанні толькі падаграюць цікавасць да пытання: "Чаму так танна збыты пакет акцый "Слаўнафты"? З-за няўмення праводзіць аўкцыёны ці...?

**Іван СЯРГЕЕЎ.**

Народная Воля
20 ЛЮТАГА 2003 г.

ЗА ЧАШЕЧКОЙ КОФЕ С МАРИНОЙ КОКТЫШ

# Откровения «сахарного» министра



*Бывший министр торговли Беларуси* ***Петр КОЗЛОВ*** *сегодня работает заместителем директора ГУМа.*

*Придя на интервью, он сразу заговорил о проблемах.*



— Раньше с высоты занимаемой должности казалось, что проблем действительно очень много, — говорит Петр Афанасьевич. — А когда опустился на землю — как будто бы ничего и не было. Не было особых проблем ни с маслом, ни с сахаром. Больше было крика, каких-то шараханий...

**— Как не было проблем? Тогда почему Вас два года назад со скандалом "попросили" с поста министра торговли якобы за то, что Вы не обеспечили страну сахаром и не смогли сдержать цены на этот сладкий продукт?**

— Сахара в республике было достаточно, перебоев не должно было быть. В июле 2001 года мы продали фактически тройную норму — 45 тысяч тонн сахара, при обычной реализации в это время года 15—17 тысяч тонн. Была, наверное, какая-то игра... Цена на сахар всегда декларировалась. Однако на тот период времени привоз сахара и переработка сахара-сырца становилась нерентабельной. Производители, директора заводов, поставщики сахара-сырца требовали увеличения цен. Пока этот вопрос решался, сахар не отгружался в торговую сеть и... Но даже в эти дни население могло купить сахара столько, сколько хотело. Рынок был завален этим продуктом. Впрочем, это старая история.

**— Может быть, прокомментируете новую задачу, поставленную руководством страны: обеспечить страну сахаром собственного производства.**

— Возможно, это хорошая затея. Но есть ли у нас сегодня такие огромные посевные площади под сахарную свеклу? Если я не запамятовал, из свеклы мы всегда делали 160—180 тысяч тонн белого сахара. Потребность республики в последние годы была в два раза больше. Чуть больше половины необходимого для потребностей страны сахара-сырца мы привозили из-за рубежа. Видимо, придется убирать какую-то другую сельскохозяйственную культуру, практически удваивать посевные площади и делать упор только на хороший урожай свеклы. Мне трудно сказать, насколько реально в нынешних условиях переработать свеклу в таких объемах в короткие сроки, не потеряв сахаристости. Уверен, специалисты сельского хозяйства, пищевой переработки знают эти проблемы гораздо лучше меня.

**— Петр Афанасьевич, после отставки у Вас не появилась аллергия на сахар?**

— *(Смеется.)* У меня нет сахарной болезни. И в прямом, и в переносном смыслах. Сладкое люблю.

Наверное, я слишком долго был министром, надо было что-то менять... Но я не чувствую себя виноватым в той ситуации. Хотя, видимо, нельзя чувствовать себя полностью невиновным. Есть много различных обстоятельств...

**— В свое время Владимир Заметалин был жутко обижен, что с ним перед отставкой даже не поговорили, а просто через третьи руки попросили написать заявление. Интересно, как с Вами обошлись при прощании? Вы все-таки больше пяти лет были "сахарным" министром...**

— Перед увольнением, помню, мы работали днем и ночью. Сахар эшелонами шел в торговую сеть. Но сердцем я уже чувствовал, что ничем хорошим это не закончится. Слишком накалены были страсти вокруг сахарной проблемы. Кому-то это было надо.. Я знал, что будут искать виноватых. Разговор о снятии министра торговли Козлова, председателя "Белкоопсоюза" Владыко и председателя "Белгоспищепрома" Шаколо состоялся на совещании у президента. У нас была возможность выступать и оправдываться, но, откровенно говоря, не очень хотелось что-то доказывать... Никаких обид не было. Не знаю, как Шаколо, но мы с Владыко восприняли все спокойно. Тем более известно, что президент своих решений не меняет.

**— Иногда меняет. Например, пару лет назад на всю страну опозорили нынешних министра торговли Куличкова и министра обороны Мальцева. Одного прямо с совещания охрана под руки вывела, а другого громогласно объявили алкоголиком. Но теперь оба снова при должностях.**

— Я всегда считал, что с людьми надо поступать по-человечески. Абсолютное большинство руководителей, на мой взгляд, старается полностью отдавать себя работе. Другое дело, что у каждого из нас могут быть не только успехи, но и ошибки, недостатки.

На мой взгляд, с человеком при любых обстоятельствах нужно поступать цивилизованно. Если он не заслуживает занимаемой должности, его можно освободить. Но делать из этого спектакль, я считаю, просто неприлично.

**— Если Вам предложат снова пойти в министры — согласитесь?**

— Мне никто ничего не предлагал.

**— Ну а если?..**

— У меня сегодня интересная работа.

**— Знаю, что Вы занимаетесь строительством гипермаркета.**

— Сразу после увольнения мне позвонили из управления кадров Администрации президента. Спросили: "Пойдете ли Вы еще работать чиновником?". Я ответил утвердительно: если будет интересное предложение — не откажусь. Многие кулуарно интересовались моей судьбой, в какой-то степени поддерживали, но никаких официальных предложений не поступало. Я не стал ждать, когда обо мне вспомнят, и с удовольствием принял предложение одной из коммерческих структур, планировавшей заняться строительством продовольственного гипермаркета. Мы нашли интересных партнеров, источники финансирования. Практически параллельно вели работу о выделении участка под строительство. Но когда уже были готовы практически все документы, нам отказали: участок передали другой заинтересованной организации...

После этого я вернулся в свой родной ГУМ. Сюда когда-то я пришел грузчиком. Потом работал продавцом, завсекцией, начальником отдела кадров, замдиректора и директором. Сейчас я — заместитель директора ГУМа.

**— Если не ошибаюсь, Беларусь последней из всех республик СНГ возводит гипермаркеты. Хочу уточнить: если бы это произошло, скажем, лет пять назад, сколько бы страна приобрела или потеряла?**

— Говорить о том, что мы очень опоздали, наверное, не стоит. В Украине гипермаркетов пока мало, в России — только в Москве.

Гипермаркет должен создать конкуренцию торговле на рынках. За счет больших объемов товаров можно снижать цены, но для того чтобы снижать цены, надо чтобы у производителей были развязаны руки, чтобы продукция, скажем, молочного комбината шла по договорным ценам, которые гораздо ниже декларируемых. Но пока такой возможности нет, потому что гипермаркет — это скорее частная структура, а молочный комбинат — госпредприятие. Если он отпустит свою продукцию по более низким ценам, в этом обязательно увидят какую-то крамолу, криминал. В таких условиях выживать гипермаркету очень сложно. Тем более что есть и другие проблемы, которые на сегодняшний день не способствуют развитию сети гипермаркетов.

**— Выходит, правы те, кто говорит, что в белорусских гипермаркетах цены все равно будут аховые?**

— Подчеркиваю: в гипермаркетах за счет крупных поставок цены должны быть значительно ниже. Но опять же все относительно. Например, сегодня на рынке очень высокая цена на свинину. Но мясо на прилавках лежит красивое, аппетитное, разделанное. А в магазине — вымороженное и некрасивое, цены вроде бы и невысокие, однако и качество не лучшее. В то же время белорусские магазины не могут сами покупать свинину, разделывать. Во всяком случае в мою бытность министром мы не могли убедить Министерство экономики дать возможность магазинам закупать напрямую от хозяйств какую-то продукцию и самостоятельно формировать цену. Надо дать возможность магазинам поработать в настоящих рыночных условиях. Я убежден: цены будут приемлемы для покупателя и обеспечат рентабельную работу торговых предприятий. Это видно на примере наших соседей — Литвы, Польши, России.

**— А как Вы относитесь к тому, что недавно отпустили цены на хлеб и хлебобулочные изделия?**

— Я считаю, что цены надо отпустить не только на хлеб, но и на муку, зерно, чтобы у предприятий была возможность самостоятельно формировать и определять цену. Не надо пугаться, что вначале может произойти некоторое подорожание. Помните, когда у нас хлеб был дешевый, а в России — очень дорогой? В России тогда цены были отпущены, а мы искусственно их держали, поэтому белорусский хлеб вывозили и за бесценок там продавали. Сегодня дешевый российский хлеб уже везут в Беларусь...

При любых реформах вначале всплывают многие недостатки, но их надо пережить, ни в коем случае не останавливаться на полпути, как мы часто делаем. В конце концов рынок все выравнивает.

Одна из основных ошибок белорусской экономики — вал, за которым мы гонимся. Мы пытаемся выполнить абсолютно все показатели. Но зачем заставлять предприятия выпускать продукцию, которая не находит сбыта? Зачем работать на склад?

**— Интересно, у министра торговли было время пройтись по магазинам, зайти на рынок за продуктами?**

— Я с удовольствием ходил и по магазинам, и по рынкам. Не забывал те же столовые, кафе, рестораны. На мой взгляд, руководителям надо как можно больше общаться с людьми.

**— На Ваш пристрастный взгляд, в Беларуси есть идеальный во всех смыслах ресторан?**

— В первую очередь в ресторан идешь для того, чтобы вкусно поесть. Исходя из этого критерия, я в свое время выделял два минских ресторана — "Стейкхауз" и "Верба".

В "Вербе" очень вкусно готовят шашлык из осетрины, там его подают с весьма своеобразным соусом. А в "Стейкхауз" шел к шеф-повару югославу Илье. Такой стейк, какой делал Илья, ни в одном другом ресторане не умеют готовить. В "Стейкхаузе", конечно, не дешево, но качество приготовления, уровень обслуживания оправдывают потраченные деньги.

Ресторан должен иметь свое лицо. Я часто молодым поварам ставил в пример шеф-повара Илью: наденьте большой белый колпак, выйдите в зал, пройдитесь между столиками, поинтересуйтесь, как гости оценивают вашу кухню. А если это постоянный клиент — угостите его за счет ресторана рюмочкой коньяка. Казалось бы, мелочи. Но зачастую именно они делают ресторан более посещаемым. Кстати, это касается и магазинов.

**— Да-да, потому что иной раз заходишь, например, в "Европейский" и покупать ничего не хочется. Стоят утомленные жизнью продавцы, на покупателя — ноль внимания, увлеченно болтают о чем-то своем. Вы, будучи министром, как-то боролись с этим?**

— Недавно в одной из газет прочитал статью, которая меня просто шокировала! Автор пишет, что ему надоели продавцы, которые пристают к покупателям с вопросом: "Вам помочь?". По-моему, это нормальная практика. Кстати, я тоже работал продавцом. За день мог пятнадцать раз спросить: "Вам помочь?" и всегда получал одинаковый ответ: "Спасибо, не надо". Продавец должен быть хорошим психологом. Естественно, вначале каждый покупатель хочет походить, посмотреть. Нужно психологически чувствовать тот момент, когда клиент дозрел, когда явно видна его растерянность.

Сегодня действительно трудно рассчитывать на подобный сервис в нашем универсаме, да и в супермаркете тоже. Но и на Западе в крупных магазинах вы будете в одиночестве бродить с тележкой между рядами. Может быть, даже увидите продавца, наводящего порядок на витринах, — это нормальная ситуация для гипермаркета. Если к нему обратитесь — он моментально отреагирует на вашу просьбу. Такая ситуация и в наших крупных магазинах.

**— Пользуясь случаем, хочу высказать еще одну претензию. На сей раз как руководителю крупного универмага. Покупаешь, например, в ГУМе комплект красивого белья, и его тут же заворачивают в грязного цвета бумагу. Почему не избавиться от этой советской традиции? Сделать, как на Западе: товар упаковывать в пакетики, стоимость которых включена в стоимость товара?**

— Это от бедности. Я честно говорю: именно от бедности. Бумага стоит дешевле. Конечно, было бы правильно сделать так, как вы говорите. Но сегодня, увы, такие наши возможности... Например, в январе мы были вынуждены отправить часть сотрудников в отпуск за свой счет, чтобы уменьшить фонд заработной платы, издержки и не допустить убыточных результатов.

**— А сельские магазины? Зайти в любой сельмаг — значит, оказаться в каменном веке. На Ваш взгляд, сколько еще нужно десятилетий, чтобы приблизить белорусские сельпо к европейским стандартам?**

— Если отвечу на этот вопрос, на меня обидится мой бывший коллега Виктор Владыко, возглавлявший "Белкоопсоюз". Я ему всегда говорил: чтобы на селе был порядок, надо разрушить монополию "Белкоопсоюза" на селе путем создания альтернативных магазинов. Например, в деревне Равнополье Пуховичского района, где я родился, раньше был один магазин "Потребкооперации". Я использовал весь свой административный ресурс, чтобы исправить там положение дел! Когда вроде бы все наладилось, получил письмо от жителей соседней деревни: мол, в своей деревне вы навели порядок, а в нашей — нет...

Нужна частная инициатива. Без этого сложно. В городах частные магазины конкурировали друг с другом и в конце концов многие научились работать красиво...

**— Однако самым сложным моментом Вашей министерской деятельности были отнюдь не магазины...**

— Я плохо себя чувствую, когда чего-то не знаю и не умею. Вначале мне было очень сложно быть министром. Я даже начал много курить, потом, правда, бросил. Позже, когда познал некоторые вещи, мне стало проще, я гораздо увереннее себя почувствовал. Когда досконально знаешь свою работу, понимаешь, как решать проблемы.

Министр — это человек, которому приходится всегда перед кем-то отчитываться, объясняться. Мне приходилось все время перед кем-то оправдываться...

**— Мне иногда кажется, что многие высокопоставленные чиновники сегодня засыпают только при помощи снотворного. Они охвачены повальным страхом, потому что порой не знают, в каком помещении завтра проснутся...**

— Руководитель всегда должен чувствовать ответственность, должен напряженно работать и создавать напряжение в нижестоящих организациях. Хотя лично я считаю, что самый лучший способ организации работы — это материальная и моральная заинтересованность.

Плохо, что у руководителей возникает чувство страха. Нет уверенности, что их решение в конечном итоге будет принято как единственно верное. Несмотря на то, что все решения тщательно обдумываются и принимаются коллегиально, при желании их можно повернуть в любую сторону: как принесшее большую выгоду или как причинившее огромный ущерб.

Мы убили инициативу у наших кадров. Это самый большой минус кадровой политики. Да, министры боятся. Да, у них холодок по спине. Но это не значит, что сегодня все серьезные совещания проходят при угрюмом молчании. Поверьте, люди все равно выступали, особенно на заседаниях Совета министров. На совещаниях с участием президента есть особый порядок выступлений.

Трудно. Страшно. Нужно тысячи раз обдумать свои слова. Но все равно министр ДОЛЖЕН отстаивать свою точку зрения. Иначе какой он министр?

**— Кстати, а как Вам нынешний министр торговли?**

— У нас нормальные, ровные отношения. Правда, мы давно с ним не встречались. Наверное, такой необходимости не было ни у него, ни у меня. Когда в 2001 году возникла эта ситуация с сахаром, Куличков был помощником президента. Я отдаю должное его объективности, справедливости. Сегодня он пытается решить те проблемы, которые не удалось решить мне.

**— Петр Афанасьевич, скажите честно: Вы долго собираетесь работать в ГУМе?**

— Ни один нормальный человек не может быть удовлетворен сегодняшним днем. Я очень люблю универмаг, люди мне верят, но... Конечно, хочу чего-то еще... Хочу работать с максимальным приложением своих сил, знаний. Зарабатывать деньги. Хочу, чтобы моя семья не испытывала нужды.

ПУЛЬС

## Беларускія вучоныя заваявалі 14 медалёў на Маскоўскім міжнародным салоне

Беларускія інавацыйныя распрацоўкі заваявалі 6 залатых, 5 сярэбраных і 3 бронзавых медалі на 3-м Маскоўскім міжнародным салоне інавацый і інвестыцый.

У працы салона бралі ўдзел паўднёвакарэйскія, польскія, эстонскія і расійскія рэгіянальныя навуковыя ўстановы. У беларускім раздзеле салона на плошчы каля 100 квадратных метраў было прадстаўлена больш за 160 інавацыйных распрацовак беларускіх вучоных з 21 навуковай установы.

**Генадзь ШАРЫПКІН.**

## «Забойства для Нёмана»

У гэтым годзе распачнецца будаўніцтва Гродзенскай гідраэлектрастанцыі.

Плануецца пабудаваць дзве электрастанцыі: буйную — у раёне Гродна — магутнасцю да 17 МВт. і невялікую — на Аўгустоўскім канале — магутнасцю 250 кВт.

У той жа час абласны камітэт аховы навакольнага асяроддзя ячшэ не даў "Гроднаэнерга" дазволу на пабудову ГЭС.

Супраць будаўніцтва станцыі выступае і мясцовая экалагічная грамадскасць, прадстаўнікі якой называюць гэты праект "забойствам для Нёмана".

**Алеся СІДЛЯРЭВІЧ.**

## Яшчэ 16 прадпрыемстваў мяняюць акцыі на чэкі «Маёмасць»

Як паведамілі БелаПАН у Міністэрстве эканомікі, у новы пералік ААТ, акцыі якіх прапаноўваюцца грамадзянам для абмену на чэкі "Маёмасць", уключаныя 4 адкрытыя акцыянерныя таварыствы, што размешчаны ў Брэсцкай вобласці, 2 — у Віцебскай, 3 — у Гомельскай, 1 — у Гродзенскай, 2 — у Мінскай абласцях.

У Мінску да абмену на чэкі прапаноўваюцца акцыі чатырох ААТ — "Спецрадыёналаджванне", "Аўтамагістраль", "Эркон" і "Электрум".

"Спецрадыёналаджванне" займаецца вытворчасцю металічных вырабаў і рамонтам ахаладжальных і вентыляцыйных установак, "Аўтамагістраль" — эксплуатацыяй аўтамабільных дарог; будаўніцтвам трас, аэрадромаў і спартыўных збудаванняў; "Эркон" спецыялізуецца на вытворчасці і мантажы металічных будаўнічых канструкцый, вытворчасці электразварачнага абсталявання, ахаладжальных і вентыляцыйных установак, дахавых працах, устаноўцы электраправодкі і арматуры, ізаляцыйных, слясарна-водаправодных працах. "Электрум" ажыццяўляе вытворчасць гукавых электраакустычных апаратаў, уключаючы дамафоны, тэлефоны ўнутранай сувязі і сістэмы абслугоўвання адначасовага перакладу; электронных сістэм галасавання; канферэнц-сістэм; займаецца рамонтам абсталявання сувязі.

**Ірына САЗАНОВІЧ.**

## Два студэнты загінулі ў пажары, які самі ж арганізавалі

Трагедыя адбылася ў навучальным корпусе Беларускага нацыянальнага тэхнічнага універсітэта (БНТУ) у Мінску.

Маладыя людзі, двое з якіх — студэнты адной з мінскіх ВНУ позна ўначы пранiклі ў лабараторыю напылення металу, размешчаную ў 4-м корпусе БНТУ. Трапіць у памяшканне для іх было нескладана — лабараторыя размешчана на першым паверсе будынка.

Двое студэнтаў знаходзіліся ў лабараторыі, трэці саўдзельнік, відаць, чакаў іх на вуліцы. Юнакі спрабавалі выкрасці з лабараторыі платы, што ўтрымлівалі каштоўныя металы. Каб пазбавіцца слядоў злачынства, яны ўчынілі падпал. Пажар, аднак, развіваўся так імкліва, што ў лічаныя хвіліны адрэзаў студэнтам шлях да выхаду.

Мяркуецца, што выратавацца ўдалося трэцяму ўдзельніку крадзяжу, пошукамі якога цяпер займаецца міліцыя. Яго прыяцелі так і засталіся ў лабараторыі, задыхнуўшыся дымам.

**Дзмітрый БЕЛЬСКІ.**

## У Святланы Нагейкінай знайшлі многа гемаглабіну ў крыві

Беларуская лыжніца Святлана Нагейкіна не была дапушчана да старту гонкі на 15 кіламетраў класічным стылем на чэмпіянаце свету ў Валь-дзі-Фіеме (Італія).

Тэст на кроў, узяты ў лідэра беларускай каманды, паказаў нязначнае перавышэнне ўзроўню гемаглабіну ў крыві. У Святланы Нагейкінай выявілася наяўнасць 16,1 грама на дэкалітр, у той час як дапушчальная норма — 16. Гэтае парушэнне не адносіцца да разраду допінгавых, але арганізатары спаборніцтваў не дапускаюць да старту такіх спартсменаў.

У Беларускай федэрацыі лыжнага спорту факт перавышэння ўзроўню гемаглабіну ў крыві спартсменкі тлумачаць трэніроўкамі ва ўмовах высакагор'я. Апошні збор яна правяла ў Рамзаў (Аўстрыя) на вышыні 1800 метраў. Святлана вымушана будзе прапусціць пяць дзён спаборніцтваў і возьме ўдзел у эстафеце 4х5 км, з якой у беларускай камандзе звязваюць надзеі, і гонцы на 30 кіламетраў вольным стылем.

**Юрый ФЁДАРАЎ.**

ЭХ, ПРАКАЧУ!

## Экспрэс па-ваўкавыску

Ваўкавыскія транспартнікі лічаць сябе вельмі разумнымі. Нарысавалі на гарадскім аўтобусе адно слова "Экспрэсны" і за праезд бяруць удвая даражэй. "Хабар" бяруць толькі ў суботу, нядзелю ды па святах, скарацiўшы пры гэтым колькасць аўтобусаў на лініі. Уціснуцца ў такі транспартны сродак вельмі праблематычна. Выходзіць, што надбаўка за дыскамфорт?

У мяне дзве версіі, адна з якіх была скарыстана для прыняцця рашэння веку. Мясцовая ўлада лічыць сваіх суайчыннікаў дурнямі, якія нічога не разумеюць альбо самі не маюць паняцця, што такое экспрэс.

На ўсяляк выпадак даю даведку: экспрэс-поезд, параход, аўтобус, які рухаецца з павышанай хуткасцю і з малой колькасцю прыпынкаў.

Але ўсё ж такі баюся, каб заўтра на аўтобусах не напісалі надпіс "самалёт". Вядома, аўтобус вытворчасці Мінскага аўтазавода не ўзляціць у паветра, але ж цана білета, безумоўна, можа ўзляцець.

**Іван САЎКО.**

*г. Ваўкавыск.*

## Да 2005 года ўся Мінская кальцавая дарога будзе асветлена

Плануецца, што да 2005 года ўся Мінская кальцавая аўтамабільная дарога будзе асветлена.

Прынята рашэнне аб прымяненні паўсюль па кальцавой дарозе прыбораў відэафіксацыі. Пасля ахопу імі ўсёй дарогі любое правапарушэнне будзе зафіксавана Дзяржаўтаінспекцыяй. Для спынення парушэнняў хуткасных рэжымаў на дарозе плануецца актыўнае выкарыстанне аўтамабіляў-лавушак з прыборамі відэафіксацыі ў салоне.

У 2002 годзе на Мінскай кальцавой аўтамабільнай дарозе адбылося 61 дарожна-транспартнае здарэнне. У іх загінула 20 і атрымала раненні 46 чалавек. Сёлета на кальцавой ужо адбылося пяць ДТЗ, у якіх загінуў адзін чалавек.

## Спрасцілі рэгістрацыю аўтамабіляў

"Правілы дзяржаўнай рэгістрацыі і дзяржаўнага ўліку транспартных сродкаў, зняцця з уліку і ўнясення змяненняў у дакументы, звязаныя з рэгістрацыяй транспартных сродкаў", якія ўступілі ў сілу на тэрыторыі Беларусі з 29 студзеня 2003 года, істотна адрозніваюцца ад тых, што існавалі раней.

Новымі правіламі вызначана, што рэгістрацыйныя дзеянні ад імя ўласніка транспартнага сродку могуць ажыццяўляцца даверанымі асобамі. З пераліку нумарных агрэгатаў выключаны рухавікі. Пры пастаноўцы машыны на ўлік альбо зняцці з уліку рухавік не аглядаецца.

У мэтах прывядзення нарматыўнай базы ў адпаведнасць з Грамадзянскім кодэксам і для спрашчэння працэдуры набыцця транспартных сродкаў (ТС) дагавор куплі-продажу не патрэбна завяраць у натарыуса.

Спрошчаны парадак рэгістрацыі ТС, якія грамадзяне Беларусі набываюць за межамі мытнай прасторы краіны. У гэтым выпадку рэгістрацыя ажыццяўляецца на падставе дакументаў, выдадзеных мытнымі органамі. Усе астатнія дакументы, што пацвярджаюць набыццё ТС, застаюцца на мытні.

Зняцце з уліку транспартнага сродку без яго прадстаўлення ў ДАІ цяпер магчыма не толькі па актах агляду, выдадзеных у краінах СНД, але і ў іншых дзяржавах.

Зменены тэрмін дзеяння рэгістрацыйных нумарных знакаў так званых транзітных нумароў, што выдаюцца пры зняцці з уліку з мэтай продажу. Раней гэтыя нумарныя знакі выдаваліся тэрмінам на 30 сутак. Калі за гэты час ТС не прадаваўся, то можна было падоўжыць іх тэрмін дзеяння яшчэ на 30 сутак. Новымі правіламі агульны тэрмін падоўжаны да 90 сутак.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

# Ваўкалак

**Васіль ГРОДНІКАЎ**

*(Заканчэнне. Пачатак у №№31, 32.)*

### Была б дрыгва, а чэрці знойдуцца

Крыж, што пакладзены нашай уладай на нашы плечы — крыж Усявышняга за шматлікія грахі нашыя, прыйдзецца несці доўга.

Да тае пары, пакуль не паразумнеем, не станем прыніжацца, клянчыць, сквапіцца на чужое і дармавое, падлізвацца, жыць сённяшнім днём, не думаючы пра заўтрашні...

Да тае пары, калі ў людзей не адродзіцца пачуццё адказнасці за лёс свайго краю, сваёй Бацькаўшчыны, а заадно і за гонар і славу сваіх продкаў, за славутую гісторыю нашага народа...

Да тае пары, пакуль мы не ўцямім, што гісторыя наша пачалася не з 1917 года, што былі мы з даўніны сівой людзьмі, духам і адзінствам моцныя...

Да тае пары, пакуль мы не ўзломім замкі архіваў, куды схавана наша мінуўшчына з магутным духам самаўваскрашэння і наймацнейшай сілай дабрыні і самаахвярнасці, вернем разбураную і разрабаваную чужынцамі нашу гістарычную, культурную і духоўную спадчыну і напоім нашы целы гэтым бясцэнным выратавальным дарам, якімі некалі так міласціва надзяліў нас Бог...

Да тае пары, пакуль славутую нашу гістарычную спадчыну не будзе ведаць кожны школьнік, студэнт, дзяржаўны дзеяч...

Да тае пары, пакуль пацвярдзеюць нашы мышцы і воля, каб не падаць нам кожны раз перад чужынцамі на калені...

Да тае пары, пакуль нашы крывяносныя шляхі не панясуць у нашы галовы тое, што забыта, згублена, разрабавана, наўмысна прыніжана...

Толькі тады мы пачнём людзьмі звацца, і народы іншых краін будуць рукацца з намі, як з прадстаўнікамі дастойных гонару і славы цывілізаванай краіны. Тады зваротнай сувяззю замкнецца цыкл нашай высокай духоўнасці і, як кажуць медыкі, наш арганізм пачне функцыянаваць нармальна — без арытміі, ішэміі, шызафрэніі, дэбілізму і разумовай пустапарожнасці.

### Карані і шаты

Перагортваючы старонкі гісторыі розных народаў, адразу ў вочы кідаецца той факт, што там і раней і цяпер з самага маленства наймаюць для свайго дзіцяці не толькі рэпетытара, каб малое добра вучылася ў школе, каледжы, універсітэце, але з маленства з дапамогай лепшых вучоных свяціл пасцігала складаную прамудрасць — як кіраваць дзяржавай, кампаніяй, фірмай, прадпрыемствам.

Дзе ж і як рыхтуюцца кадры для кіравання эканамічнай і сацыяльнай сферай у нашай краіне?

Па-першае, ленінскі лозунг аб тым, каб кожная хатняя гаспадыня ўмела кіраваць дзяржавай, мы выканалі. "Поспехі", як кажуць, відаць на сённяшнім абліччы "развітога сацыялізму". Сёння і сярод кіраўнікоў дзяржавы ёсць нямала людзей, якія ў свой час праходзілі падрыхтоўку на прадмет кіравання дзяржавай на калгасных мехдварах, у заводскіх курылках, у "цёплых" кампаніях на ўласных кухнях, на берагах мясцовых вадаёмаў, рыхтуючы юшку для высокіх сталічных гасцей. Вынікі дзейнасці ўладальнікаў такіх "дыпломаў", атрыманых на тых "курсах паскоранай падрыхтоўкі", сёння таксама відавочныя. У публічных выступленнях — голы папулізм, абяцанкі, пражэкты. За душой няма нічога таксама, што магло б выклікаць надзею на сур'ёзны падыход да выйсця з крытычнага стану нашай эканомікі.

Вось вам адзін факт. На пачатку гэтага года на пасяджэнні ўрада прэм'ер заявіў: да канца года мы будзем мець інвестыцый у народную гаспадарку не менш як 1,5 млрд. долараў, а праз дватры гады — усе пяць! Гэта ў той час, калі мы не мелі нават 200 мільёнаў долараў. Адкуль пасыплецца такая манна нябесная — ніякіх тлумачэнняў. Проста, як і раней, нам на вушы навесілі, не шкадуючы, пазалеташнюю лапшу. А ўсё гэта для таго, каб пераканаць і народ, і Вярхоўнага камандзіра, што чыноўнікі наверсе не дарма хлеб ядуць, даць чарговую порцыю прапагандысцкай надзеі людзям на хуткае паляпшэнне іх жыцця. Да таго ж напярэдадні выбарчая кампанія ў мясцовыя Саветы... Ат, куды вецер, туды й дым...

У працэсе руціннай працы ў дзяржаўных кабінетах розных узроўняў ідзе так званая рэпетыцыя "мастацкай самадзейнасці". Узровень майстэрства адпаведны самадзейнаму. Таму што ўся гэтая праца пабудавана не на творчым падыходзе, не па сістэме Станіслаўскага, а па каманднa-адміністрацыйнай сістэме, без прафесійнага мастацкага кіраўніка, без вопытнага дырыжора, менеджэра, што з'еў на гэтай справе зубы. Адным словам, усё адбываецца так, як у вуллі, рамы якога нядбайны пчаляр (жарты Ваўкалака!) накрыў анучай, запэцканай саляркай. Дзівак-пчаляр перакананы: пчолы пачалі раіцца, будзе мёду на ўвесь калгас-саўгас...

**P.S.** *Пра "пчаляроў", "вуллі" і "раі" раскажу вам у наступны раз.*

ФОТА ДНЯ

*Пасля ўрокаў...*

Фота IREX/ProMedia.

